*Выпісвайце штодзённую беларускамоўную газету!*

НАГАДАЕМ:
Падпісная цана на 1992 год — 19 руб. 80 капеек.

# ЗВЯЗДА

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

13 лістапада 1991 г.
СЕРАДА
№ 217 (21745)
Цана 20 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

Мінск

### СПАДАБАЛІСЯ БЕЛАРУСКІЯ ТРАКТАРЫ

Згодна з папярэдняй дамоўленасцю, 11 лістапада ў Мінск з Паўднёвай Карэі прыбыла дэлегацыя фірмы «Кукчэ Машынеры» на чале з яе прэзідэнтам Куі Ван Лі. Госці наведаюць Мінскі трактарны завод, дзе будзе ісці размова аб стварэнні сумеснага камерцыйнага прадпрыемства.

Фірма «Кукчэ Машынеры» больш спецыялізуецца на выпуску малагабарытнай сельскагаспадарчай тэхнікі, якая нам, у сувязі з развіццём фермерскіх гаспадарак, патрэбна як паветра. Паўднёвакарэйцы таксама маглі б рэалізоўваць на сваім рынку і рынках іншых краін трактары мінскага завода (яны, дарэчы цяпер праходзяць у Карэі ўсебаковыя выпрабаванні).

У Савеце Міністраў дэлегацыю фірмы прыняў намеснік прэм'ер-міністра рэспублікі В. Пілюта. На сустрэчы гаварылася аб магчымых шляхах супрацоўніцтва.

Акрамя МТЗ, дэлегацыя таксама пабывае на Мінскім аўтамабільным заводзе, машынавыпрабавальнай станцыі.

**А. ЗАЙКОЎСКІ.**

### ПАЧЫНАЕЦЦА БЯДА З НАФТАВАГА РУЧАЯ?

**На мільён тон сырой нафты менш, чым звычайна, атрымае ў лістападзе наваполацкае аб'яднанне «Нафтааргсінтэз». З-за недахвату сыравіны тут спынены дзесяткі ўстановак, значна зніжана прадукцыйнасць астатніх агрэгатаў.**

**Зніжэнне прадукцыі наваполацкага прадпрыемства хімікі і энергетыкі рэспублікі адчуюць ужо на гэтым тыдні. А работнікі аб'яднання, занепакоеныя раўнадушнасцю ўрада, гатовы і да наступнага кроку — поўнага спынення прадпрыемства. Такая небяспека існуе, бо пастаўку нафты ў Наваполацк сёння наогул ніхто не гарантуе.**

**С. НІКАНОРАЎ, кар. БЕЛТА.**

### ПАДДАЛІСЯ НА ПРАВАКАЦЫЮ

**ГРОДНА. Самымі буйнымі фактамі махлярства за апошні час сталі два выпадкі, зарэгістраваныя ў абласным цэнтры.**

Як ні дзіўна, абодва адбыліся ў адзін дзень з розніцай толькі ў чатыры гадзіны. Спачатку невядомыя ў цэнтры горада ашуканствам забралі 110 тысяч рублёў у інжынера калгаса «Кіберкінес» Літоўскай Рэспублікі Г. Кардокаса. Здзіўляе, што салідны 42-гадовы мужчына не зрабіў высноваў з горкага вопыту іншых, давялося іх рабіць з уласнага.

Няшчасце напаткала і жыхара Вільнюса В. Юркувенаса. Трое невядомых пад выглядам набыцця легкавога аўтамабіля ўручылі яму грашовую «ляльку» і заваладалі амаль 3000 долараў ЗША. Сума салідная!

### СЯДЗЯЦЬ У ЗЯМЛІ СНАРАДЫ

**Пры выкананні земляных работ ля дома № 22 па вуліцы Філімонава ў Мінску быў знойдзены 76-міліметровы артылерыйскі снарад часоў мінулай вайны. Сапёры вывезлі небяспечную знаходку за межы горада і знішчылі яе.**

**Колькі гадоў мінула пасля вайны, а шматпакутная беларуская зямля ўсё яшчэ працягвае захоўваць смяротную зброю!..**

### БОЛЬШ ПЕРАВЕЗ—БОЛЬШ ЗЭКАНОМІЎ

**АСІПОВІЧЫ. (І. Сцяпура). Парушэнне дагавораў, на жаль, сёння стала звычайнай з'явай. Многія паабяцаюць залатыя горы, а выканаць забудуць.**

А вось калектыў Асіповіцкага лакаматыўнага дэпо па сваё слова трымае цвёрда. З пачатку года тут праведзена 2.400 цяжкавагавых цягнікоў, у якіх звыш нормы перавезена больш чым 1 мільён 700 тысяч тон народнагаспадарчых грузаў. Але цікава вось што: той, хто больш правёў такіх саставаў і перавёз грузаў, больш і паліва зэканоміў.

Так, на рахунку машыніста Уладзіміра Аляксандравіча Мірончыка з пачатку года 51 цяжкавагавы поезд, звыш нормы перавезена 53.521 тона грузаў і ў той жа час зэканомлена 10.524 кілаграмы паліва.

Важкія здабыткі таксама ў машыністаў Міхаіла Дзямідовіча, Валерыя Ягоўдзіка, Іосіфа Садоўскага. А наогул, у дэпо ўсё роўна як знайшлі 400 тон гаручага. Вось каб так працавалі ўсе рабочыя калектывы!

### БЕЛАРУСЬ ВЫБРАНА ЧЛЕНАМ ЭКОСОС

**Беларусь выбрана на 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі членам эканамічнага і сацыяльнага савета (ЭКОСОС), які з'яўляецца адным з шасці галоўных органаў ААН.**

**Усяго ў саставе ЭКОСОС 18 членаў. Цяперашнія выбары набылі востры і многаэтапны характар у выніку таго, што колькасць дзяржаў, якія вылучылі свае кандыдатуры для выбрання, значна перавысіла колькасць вакансій. Тым не менш, Беларусь выбрана ў састаў ЭКОСОС тэрмінам на тры гады ўжо ў першым туры галасавання. (ТАСС).**

### ПРЫВІТАННЕ, МЕНЕДЖЭРЫ АДПАЧЫНКУ!

**У Мінскім інстытуце культуры з'явілася новая спецыяльнасць — «менеджэры адпачынку». Асвойваюць яе першыя 24 студэнты, якія паспяхова вытрымалі экзамены і конкурс шэсць чалавек на месца.**

Першыя тры гады яны будуць вывучаць музеязнаўства, краязнаўства, асновы абраднай дзейнасці, выяўленчага мастацтва, вакал і здаваць практыкумы. Чыста менеджэрская падрыхтоўка ў іх пачнецца з 4-га курса. Студэнтам патрэбна засвоіць асновы менеджменту, маркецінгу, кіравання і фінансаў. Мяркуецца, што чытаць лекцыі па менеджменту будуць як зарубежныя спецыялісты, так і вядомыя айчынныя эканамісты.

Вядома, што на Захадзе сфера забаў — адна з самых прыбытковых. Ёсць надзея, што і нас навучаць адпачываць.

**В. ІШЧАНКА.**

### ЦІ ДАПАМОЖА ЭКСПЕРЫМЕНТ?

**ПІНСК. (У. Равіцкі). У мэтах умацавання правапарадку на вуліцах горада ў парадку эксперымента пачалося стварэнне асобнага ўчастка міліцыі ў Заходнім мікрараёне.**

За апошнія гады гэты раён бурна разросся. Адпаведна вырасла і колькасць правапарушэнняў. Таму вырашана на базе грамадскага пункту аховы правапарадку стварыць новы міліцэйскі ўчастак. Для выканання сваіх задач ён будзе мець пастаянны штат асабовага саставу, транспарт і неабходныя спецсродкі. Пачаць сваю дзейнасць міліцэйскае фарміраванне павінна ўжо з 15 лістапада.

Наколькі паспяхова пройдзе гэты эксперымент, і ці трэба яго распаўсюджваць на іншыя раёны, на гэтыя пытанні ў сярэдзіне студзеня начальнік гараддзела ўнутраных спраў С. Курэль павінен далажыць на сесіі гарадскога Савета.

# Госці былі ў добрым настроі...

Учора ў Мінску ў Доме знешнеэканамічных сувязей зноў адкрывалі традыцыйнае пратакольнае шампанскае...

Але прапаноўвалі яго далёка не ўсім. Відаць, дэфіцыт адчуваецца паўсюдна. Ці, можа, падвялі ліміты? Прынамсі, у апошнім выпадку бачыцца добры знак — інтэнсіўнае заключэнне нашай рэспублікай дагавораў з іншымі рэспублікамі.

На гэты раз у Доме знешнеэканамічных сувязей сустракалі гасцей з Азербайджана — дэлегацыю на чале з Прэзідэнтам А. Муталібавым і Прэм'ер-міністрам Г. Гасанавым, якая прыехала ў сталіцу Беларусі для падпісання двух важных дакументаў: палітычнага пагаднення паміж Беларуссю і Азербайджанам тэрмінам на 10 гадоў і пагаднення аб прынцыпах эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх рэспублік. Беларускі бок адпаведна прадстаўлялі Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч і Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч.

Як адзначыў на прэс-канферэнцыі С. Шушкевіч, асноўным зместам палітычнага пагаднення з'яўляецца прызнанне суверэнітэту адзін аднаго. Пры гэтым калі раней у падобных дагаворах праглядвала падказка трэцяга боку, то сёння нічога спецыяльна не робіцца, каб дагадзіць гэтаму боку. Галоўнае, што рухае рэспублікамі,— узаемавыгаднае супрацоўніцтва на карысць абедзвюх.

Паводле слоў А. Муталібава і Г. Гасанава, яны з вялікім задавальненнем успрымаюць пашырэнне сувязей з Беларуссю і прыехалі сюды з добрым настроем.

Ну, а які настрой можа быць у нас, дакладней — чаго канкрэтна чакаць нам ад падпісання ўказаных пагадненняў?

Найперш паміж нашымі рэспублікамі, або паміж іх народнымі гаспадаркамі, захаваюцца тыя эканамічныя сувязі, якія склаліся, што мае вельмі важнае значэнне пры сённяшняй усеагульнай дэстабілізацыі. Ну, і да таго ж існуюць узаемапрыцягальныя моманты. Скажам, у Азербайджане ёсць воўна, а ў нас адпаведныя фабрыкі, якія, між іншым, знаходзяцца сёння на паўгалодным пайку.

Дарэчы, цяпер у двухбаковым гандлёвым балансе такі расклад: на Азербайджан прыпадае меншая сума паставак у нашу рэспубліку, чым з нашай туды. Вядома, гэту «вілку» трэба хутчэй не проста змяншаць, як гучала на прэс-канферэнцыі, а ліквідоўваць увогуле.

Аднак чаго нам чакаць, так сказаць, у жыццёвым разрэзе (калі не лічыць пракату каляровых металаў, пластмас, трансфарматараў, электрарухавікоў, у павелічэнні паставак якіх зацікаўлена рэспубліка)? Мы, відаць, можам спадзявацца і на прыбаўку паставак баваўняных тканін, плодаагароднінай прадукцыі, фруктаў і высакаякасных він (можа, і таго ж звышдэфіцытнага шампанскага?).

Увогуле ж, варта сказаць: міжрэспубліканскіх пагадненняў цяпер Беларусь заключае шмат — то вельмі хацелася б як мага хутчэй бачыць і нейкія канкрэтныя змены ад гэтага ў нашым штодзённым жыцці. Каб той жа просты, як мы кажам, чалавек мог зазначыць: вось ён — вынік. Маўляў, і келіхі з шампанскім у Доме знешнеэканамічных сувязей падымалі недарэмна.

**І. БАРАНОЎСКІ, кар. «Звязды».**

У час падпісання пагаднення. Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## А з народам усё ж лепш параіцца

Не трэба быць вялікім празарліўцам, каб загадзя прадбачыць маруднае, цяжкае і эмацыянальнае абмеркаванне на сесіі праекта Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь». Пытанне гэта з разраду самых злабадзённых, якое напрамую закранае кожнага без выключэння жыхара. І, зразумела, у новым законе дэпутаты імкнуліся даць адназначнае тлумачэнне і вырашэнне дзесяткаў спрэчных жыццёвых калізій, якія абавязкова будуць у час рэалізацыі гэтага заканадаўчага акта.

Таму кожны, хто выходзіў на трыбуну, лічыў сваім абавязкам папярэдзіць (нярэдка на высокай ноце) прысутных аб недахопах, праліках праекта, якія заўважае пільнае дэпутацкае вока. Сам прадмет размовы, шматлікасць праблем з прыватызацыяй жылля настройвалі прамоўцаў сказаць усё, што яны думаюць наконт гэтага.

А думкі трывожныя. Якім чынам правесці прыватызацыю, каб нікога з нас не пакрыўдзіць, каб і дзяржаве было выгадна прадаваць жыллё, і ў насельніцтва з'явіўся стымул яго набываць? І каб і не прадзешавіць. І каб не трапілі кватэры, дамы ў рукі несумленных людзей. А каго лічыць суб'ектам прыватызацыі, якую ўласнасць прыватызаваць, менавіта каму і па якой цане? А якой павінна быць рынчная цана квадратнага метра жылплошчы—у «царскім сяле» па вул. Пуліхава г. Мінска, у прэстыжных гмахах, што будаваліся для наменклатуры, і блочным доме па ўскрайку заштатнага райцэнтра. І ці трэба ўлічваць працоўны стаж пакупніка жылля?

Нават гэта нязначная частка ўзнятых праблем сведчыць аб няпростым праходжанні будучага закона ў парламенце. Адсюль і амаль дыяметральна процілеглыя ацэнкі яго праекта: ад знішчальных да памяркоўных і станоўчых, вядома, з пэўнымі агаворкамі.

А. Турок адзначыў, што шмат у праекце незразумелага. Свой тэзіс ён падмацаваў аналізам некаторых яго артыкулаў. М. Лобач заняў бескампрамісную пазіцыю. Паводле яго слоў, закон — «рабаўніцтва сярод белага дня», ён супярэчыць прынцыпам сацыяльнай справядлівасці, бо падзеліць людзей на грамадзян першага і другога гатунку. А ў заключэнне дэпутат прапанаваў вярнуць праект на дапрацоўку.

А вось іншыя меркаванні. С. Папкоў сказаў, што трэба падзякаваць аўтарам праекта за добра выкладзены механізм прыватызацыі і прыняць закон у першым чытанні.

«Гэты праект лепшы за маскоўскі», — сцвярджаў У. Заблоцкі.

У А. Трусава свой і, трэба сказаць, цікавы пункт погляду: ацэнку жылля праводзіць не ў рублях, а ў доларах па сусветных цэнах. А пакуль гэты закон не прыняты, увогуле спыніць прыватызацыю дамоў і кватэр, бо нямала іх ужо трапіла ва ўласнасць прадстаўнікоў усходніх рэспублік.

Вельмі няпроста будзе прымацца закон, што, дарэчы, і паказалі першыя гадзіны абмеркавання яго праекта. Таму, здаецца, варта прыслухацца да думкі тых дэпутатаў, якія прапанавалі праект закона з усімі дапаўненнямі і змяненнямі зноў надрукаваць у рэспубліканскіх газетах, каб высветліць меркаванні людзей наконт прыватызацыі жылля.

**Л. ЛАХМАНЕНКА.**

*Зона асаблівай увагі*

## Гуманныя справы нямецкай навукі

**Два з палавінай гады назад у Заходняй Германіі шаснаццаць незалежных вучоных і прафесараў, якія спецыялізуюцца ў галіне медыцыны і радыебіялогіі, стварылі свой саюз, пераўтвораны потым у інстытут радыяцыйных даследаванняў імя Ота Хуга. Аб'яднала гэтых вучоных у іх рабоце чарнобыльская трагедыя, дакладней—вывучэнне шляхоў ліквідацыі вынікаў катастрофы і каардынацыя дабрачынных дзеянняў грамадскіх і ўрадавых арганізацый Германіі.**

Немалую дапамогу аказвае беларускім людзям, якія пацярпелі ад катастрофы, і сам інстытут імя Ота Хуга. Раней ім было пастаўлена ў Беларусь медыцынскага абсталявання і медыкаментаў на сотні тысяч заходнегерманскіх марак. А зусім нядаўна дэлегацыя інстытута на чале з прафесарам Эдмундам Ленгфельдэрам пабывала ў Гомелі, Магілёве і Мінску. Яна прывезла прыборы — больш як 80 радыеметраў для кантролю прадуктаў харчавання на агульную суму 700 тысяч нямецкіх марак і тры альфаспектрометры, кожны з якіх каштуе 60 тысяч марак. Усе гэтыя прыборы накіраваны ў канкрэтныя адрасы—на санітарна-эпідэміялагічныя станцыі Магілёўскай і Гомельскай абласцей, у Інстытут радыебіялогіі Акадэміі навук Беларусі, на кафедру радыехіміі Белдзяржуніверсітэта.

Акрамя гэтага, інстытутам ажыццяўляюцца ў Беларусі разнастайныя бясплатныя праекты супрацоўніцтва. У першую чаргу—у галіне радыеметрыі, у дыягностыцы і лячэнні захворванняў шчытападобнай залозы. Да восені 1992 года «хугаўцы» павінны поўнасцю абсталяваць Гомельскі цэнтр лячэння захворванняў шчытападобнай залозы, а будучай вясной—гісталагічную паталага-анатамічную лабараторыю Інстытута анкалогіі, які знаходзіцца ў Бараўлянах. Вучоныя нямецкага інстытута акажуць таксама медыцынскую кансультацыйную дапамогу па стварэнню рэабілітацыйнага цэнтра для дзяцей, пацярпеўшых у выніку чарнобыльскай катастрофы. Пачатак будаўніцтва цэнтра запланаваны на вясну 1992 года.

Немалаважным аспектам супрацоўніцтва стане запрашэнне беларускіх урачоў і навуковых супрацоўнікоў на стажыроўку ў нямецкія універсітэты і спецыялізаваныя інстытуты.

Вучоныя інстытута радыяцыйных даследаванняў імя Ота Хуга на чале з Эдмундам Ленгфельдэрам былі прыняты і мелі гутарку з намеснікам Старшыні Саўміна Беларусі, старшынёй Дзяржкамітэта па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС І. Кенікам. Яны пабывалі таксама ў Беларускім экалагічным саюзе, фондзе «Дзецям Чарнобыля», Міністэрстве аховы здароўя Беларусі.

**А. ЗАЙКОЎСКІ.**

# КАПІТАЛІСТАМ УВАХОД... НЕ ЗАБАРОНЕНЫ

**Наўрад ці хто стане аспрэчваць той факт, што без дапамогі заходняга капіталу нам не абысціся. Сёння само жыццё ставіць гэтую праблему ў цэнтр эканамічнай палітыкі. Але праект Закона «Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» пакуль толькі вынесены на абмеркаванне цяперашняй сесіі парламента рэспублікі, а час, між тым, не чакае.**

**Як хутчэй наладзіць міжнароднае супрацоўніцтва, шырокую кааперацыю з замежнымі партнёрамі, пакажа, у прыватнасці, «БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПА РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІЦЫ І БІЗНЕСУ», якую намечана правесці 17—22 лістапада ў Мінску. Мяркуецца, што ўдзел у ёй прымуць 200 прадстаўнікоў беларускага бізнесу і 50 чалавек з дзелавых колаў ЗША.**

Дарэчы, ідэя такой сустрэчы выспела ў свой час яшчэ ў Дзяржаўным камітэце па знешнеэканамічных сувязях. Але з наскоку такія справы не вырашаюцца — трэба было адшукаць і падрыхтаваць партнёраў, падвесці навуковую базу, знайсці агульную зацікаўленасць у рэалізацыі праекта. Падобную спробу, будучы ў ЗША, зрабіў і дырэктар МП «БелАСБІ» Леанід Груздзіловіч. І толькі пасля таго, як быў знойдзены спонсар праграмы з амерыканскага боку ў асобе Цэнтра развіцця знешняй палітыкі Браўнскага універсітэта (ЦРЗП), яна вырашылася станоўча.

*Напярэдадні падзеі*

Інтарэс Цэнтра заключаецца ў вывучэнні магчымасцей прамых замежных інвестыцый для аказання дапамогі па пераходу рэспублікі да рынчнай эканомікі. Таму, акрамя прадпрымальнікаў, у сустрэчы прымуць удзел заходнія эксперты ў галіне права і фінансаў.

Трэба аддаць належнае амерыканскаму спонсару, які ўсім, на яго погляд, рэальным партнёрам выслаў не толькі запрашэнні, але і даў інфармацыю аб палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі, абгрунтаваў, чаму менавіта з ёй і выгадна, і можна весці справы. Акрамя таго, дадаў (па прапанове Дзяржкамітэта Беларусі па знешнеэканамічных сувязях і «БелАСБІ») праекты, па якіх магчыма стварэнне сумесных прадпрыемстваў ці будаўніцтва іх на крэдытнай аснове. Скажам, у аўтамабільнай прамысловасці — гэта зборка невялікіх аўтамабіляў на тэрыторыі склада ВА «БелаўтаМАЗ» да 300 тысяч штук у год. Другая галіна — вытворчасць электронных бытавых вырабаў. СВЧ-печаў. Тут наш бок гатовы прадаставіць памяшканні, збудаванні і інжынерныя сеткі, ад амерыканскага ж патрабуецца тэхналагічнае абсталяванне. Прычым, пасля завяршэння будаўніцтва комплексу, адзін паверх можа быць аддадзены амерыканскай фірме.

Нам пажадана наладзіць і сумесны выпуск мужчынскага, жаночага абутку, адзення, апаратаў аналага-лічбавага тэлебачання, спадарожнікавых тэлевізійных сістэм, відэа- і касетных магнітафонаў, халадзільнікаў, кампрэсараў і г. д., аж да распрацоўкі прыродных рэсурсаў.

Са свайго боку мы заўсёды можам прапанаваць плошчы, сыравіну, рабочую сілу, камунікацыі; а мець хацелі б тэхналогіі, абсталяванне ці інвестыцыі ў валюце. Напрыклад, для сумеснага будаўніцтва нафтаперапрацоўчых комплексаў патрэбна 300 мільёнаў долараў.

Мяркуючы па сустрэчных прапановах з-за акіяна, шэраг праектаў можа ажыццявіцца. Гандлёвая кампанія «Манчэсцер» паведаміла, што зацікаўлена ў вырабе тавараў шырокага ўжытку, напрыклад, адзення, а таксама — у стварэнні СП па вырабу жаночых панчох. Яна гатова паставіць абсталяванне і тэхналогію, ад беларускага партнёра хоча мець плошчы, рабочую сілу і каб ён узяў на сябе збыт прадукцыі на ўнутраным рынку.

Інтарэсы фірмы «Джэнерал дайнемікс» ляжаць як у касмічнай (вылічальныя машыны і праграмнае забеспячэнне, электронныя прыборы, аптычная электроніка і інш.), так і ў камерцыйнай (распрацоўка радовішчаў карысных выкапняў, перапрацоўка вугалю) сферах. І яны супадаюць з нашымі.

У адным з апошніх пісьмаў па тэлефаксу намеснік дырэктара ЦРВП Алан Б. Шэр прасіў Л. Груздзіловіча высветліць, ці знойдзецца ў Беларусі партнёр для адной з вядучых у ЗША кампаній, якая займаецца распрацоўкай электрастанцый, што працуюць на адходах драўніны, біямас. Дарэчы, ён пакуль так і не знойдзены. Хутчэй за ўсё з-за недахвату інфармацыі аб маючай адбыцца сустрэчы. Так што ў некага ёсць шанц!

Нягледзячы на тое, што састаў удзельнікаў канферэнцыі ўжо вызначаны, месцы тым не менш знойдуцца для тых, хто гатовы прапанаваць амерыканскаму боку смелыя, неардынарныя, але рэальна ажыццявімыя ідэі. КАНТАКТНЫ ТЭЛЕФОН — 26-61-77.

**Н. ВАСІЛЬЕЎ.**

## ФАКТ

### ДА ТРЫЛЬЁНА ДОЛАРАЎ

**Такімі могуць аказацца затраты на ажыццяўленне структурнай перабудовы эканомікі краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Гэта заявіў Генеральны сакратар ААН Хаўер Перэс дэ Куэльяр. Непараўнальна менш сродкаў — каля 30 млрд. долараў — спатрэбіцца, па яго ацэнцы, для ажыўлення эканомікі афрыканскіх дзяржаў.**

### НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МАНЕТЫ ЛІТВЫ

Яны будуць адчаканены ў Бірмінгеме. Іх вартасць —10, 20, і 50 цэнтаў, а таксама 1, 2 і 5 літаў. На манетах адлюстраваны сярэдневяковы рыцар часоў караля Гедымінаса на кані.

Манетны двор Бірмінгема аказвае літоўскім уладам і тэхнічнае садзейнічанне для наладжвання ўласнай вытворчасці манет у Вільнюсе. Пра суму заключанай здзелкі не паведамляецца.

### РЫС ЗА ЎГНАЕННІ!

**Тайваньскія ўлады маюць намер аказаць харчовую дапамогу Савецкаму Саюзу, паставіўшы яму лішкі рысу, якія ўзніклі ў выніку яго перавытворчасці на востраве і зніжэння ўнутранага попыту.**

**Рэалізацыя гэтага плана, як чакаецца, пракладзе таксама шлях да ажыццяўлення паставак на Тайвань угнаенняў савецкай вытворчасці.**

### ЗАХВОРВАННЕ ХАЛЕРАЙ

Першым нікарагуанцам, захварэўшым гэтай небяспечнай хваробай, стаў 40-дзённы малыш, бацькі якога жывуць у адной з трушчоб Манагуа.

Гэты выпадак з'яўляецца зусім нетыповым, паколькі халера, як правіла, не паражае немаўлят. Ніводны з членаў сям'і хворага не з'яўляецца носьбітам халернага вібрыёна.

### «ФЛАГМАН» ЗАКРЫТЫ!

**Спынены пабудаваны пры тэхнічным садзейнічанні СССР трактарны завод у эфіопскім горадзе Назрэце. Прычына? Прадукцыя не карыстаецца попытам у эфіопскіх сялян!**

**Завод быў пушчаны ў строй у жніўні 1984 года пад гукі фанфар і ўрачыстых прамоў аб неабходнасці будаўніцтва «сучаснай базы машынабудаўнічай прамысловасці Эфіопіі», стварэння «кузні кадраў кваліфікаваных рабочых», ажыццяўлення «планамернай механізацыі сельскай гаспадаркі рэспублікі» на базе «флагмана савецка-эфіопскага супрацоўніцтва».**

### БУДЗЕ ЎКРАІНСКАЯ ВАЛЮТА!

Украіна плануе ў бліжэйшай будучыні ўвесці сваю ўласную валюту. На пачатковым этапе пераходу да «поўнага эканамічнага суверэнітэту» са студзеня 1992 года ў рэспубліцы будзе дзейнічаць сістэма так званых «купонаў», якія на ўнутраным рынку заменяць савецкія рублі. Пра гэта заявіў на штогадовым «круглым стале вышэйшых кіруючых асоб» вядучых фірм-спонсараў і членаў гэтага даследчага цэнтра сусветнай эканомікі ў Лазане міністр замежных спраў Украіны Анатоль Зленко.

### СУД НАД НЕАНАЦЫСТАМІ

**У саксонскім горадзе Цытаў на судовым працэсе над групай праварадыкальных экстрэмістаў, якія 9 мая г. г. напалі на групу савецкіх дзяцей з чарнобыльскай зоны, што праходзілі курс лячэння ў доме адпачынку бундэсвера, вынесен прыгавор.**

**Восем малойчыкаў ва ўзросце ад 18 да 34 гадоў былі прыгавораны да розных тэрмінаў пазбаўлення свабоды, прычым максімальны склаў толькі 15 месяцаў. Некаторыя з іх асуджаны ўмоўна. Суд прызнаў падсудных вінаватымі ў парушэнні грамадскага парадку, распальванні варожасці паміж народамі. Акрамя таго, двое абвінавачаных былі прызнаны вінаватымі ў нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў.**

**(Па матэрыялах ТАСС і друку).**

## ФАКТ

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

